Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

13—19 сакавіка 1999 года
№ 11 (169)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

● *ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ*

## Раз начальнік — то выбраннік

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Варта зазірнуць у спіс кандыдытаў у дэпутаты Івацэвіцкага райсавета, зарэгістраваных выбарчай камісіяй, каб пераканацца ў гэтым. На 37 месцаў прэтэндуюць 60 чалавек. З гэтай колькасці 51 начальнік розных узроўняў. Пры тым у 15 акругах толькі па аднаму кандыдату-чыноўніку.Тут нагул барацьбы за дэпутацкае крэсла не будзе.

Да начальнікаў у некаторых акругах у якасці праціўнікаў падсадзілі чатырох пенсіянераў, аднаго ўрача і чатырох работнікаў адукацыі. Ні простага рабочага, ні калгасніка ў тым спісе няма. Не давяраюць простаму люду нават пазмагацца за дэпутацкі мандат. Што ж, такая дэмакратыя па-беларуску.

## Как проголосуем, так и будем жить!

**ПРУЖАНЫ.** На Пружанщине подготовка к выборам в местные Советы депутатов вступила в свой очередной этап. Кандидаты в депутаты проводят встречи с избирателями, ведут агитацию через средства массовой информации, встречаются с трудовыми коллективами. Но вот интересны некоторые исследования общественных организаций г. Пружаны. Так, местное отделение Всебелорусского клуба избирателей провело телефонный опрос в некоторых округах (учитывая, что в 80% округов баллотируется только ...1 человек, опрос проводился только в тех округах, где были выдвинуты 2 кандидатуры). Поразил результат опроса по Пружанскому—Маяковскому избирательному округу № 9. Было опрошено 350 человек. Из них 72% будут голосовать за независимого кандидата Владимира Радивончика, 10% досталось его конкуренту, 6% затруднились ответить, 12% вообще отказываются от участия в выборах.

Причины высокого рейтинга Владимира Радивончика назывались разные, но чаще всего звучали такие объяснения: молодость кандидата, его деятельность среди избирателей в качестве помощника депутата Верховного Совета, узнаваемость в округе.

БАРАНАВІЧЫ

### 4 мільярды рублёў! Прададзена!

Першы ў гэтым годзе аўкцыён па продажу аб'ектаў гарадской камунальнай маёмасці прайшоў у Баранавічах. Ён арганізаваны гарвыканкамам пры тэхнічным садзеянні кансультантаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі.

На продаж выстаўляліся чатыры аб'екты. Найбольшую цікавасць у прадпрымальнікаў выклікаў першы лот — памяшканне былога кафэ "Агеньчык" па вуліцы Брэсцкай, прададзенае за чатыры мільярды рублёў. Упершыню ў горадзе ўбудаванае памяшканне перайшло ва ўласнасць пакупніка.

Наступны аўкцыён назначаны на 25 сакавіка. На ім будуць выстаўлены два гарадскія і адзін рэспубліканскі аб'екты, а таксама тыя лоты, што не прададзены на папярэдніх таргах.

### Першай справай — самалёты

Гарвыканкам даў "дабро" на стварэнне на тэрыторыі горада сумеснага беларуска-расійскага прадпрыемства "Акорд". Яно размесціцца на базе авіярамонтнага завода, які цяпер дае другое жыццё ваенным СУ і МіГам. Вытворцы новага падраздзялення будуць выраблядь унікальную прадукцыю — невялікія лёгкія самалёты, здольныя браць на борт каля 900 кілаграмаў грузу альбо сем пасажыраў.

Плануецца, што вытворчая лінія дасць амаль тысячу новых працоўных месцаў.

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Кажадуб, А. Горбач (Івацэвічы), С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), А. Лаўранюк (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. Ганчук.**

## 15 сакавіка – Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

Гэтае свята з'явілася ў календарах пасля сумнавядомага рэферэндума, што праводзіўся 24 лістапада 1996 года. Асноўны закон перапісаны і падагнаны пад інтарэсы сённяшняга кіраўніцтва краіны і абвешчаны як гарант стабільнасці і дэмакратычных свабод беларускага грамадства. Жывучы трэці год па новай Канстытуцыі, мы ўвачавідкі бачым, як парушаюцца рэальныя правы і свабоды грамадзян,як абыякава і разрознена дзейнічаюць улады, як праца людзей з-за бяздарнага кіраўніцтва не спрыяе эканамічнаму росту і ўздыму дабрабыту...

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## Конкурс "Самая обаятельная и привлекательная"



*МАРИНА. По гороскопу — Весы. Мечтаю стать манекенщицой. Люблю лёгкую музыку. Из ансамблей нравятся многие. Любимое блюдо — пельмени. В мужчинах ценю доброту, ум и внешний вид.*

●ЦИТАТА МЕСЯЦА

**МИХАИЛ ЧИГИРЬ:**

Я одно хочу сказать: придет время и станут известны операции с выходом на ряд банков на Кипре, в Германии, Латвии... И вот тогда станет ясно, кто на самом деле вор и народ будет в шоке.

"Народная воля" за 3 марта с. г.

ПРУЖАНЫ

### Дзесяць гадоў таму...

Зіма — не надта спрыяльны час для турысцкіх вандровак. Аднак акурат у гэтую пару дзесяць гадоў таму ў СШ № 1 г. Пружаны была створана каманда "сонца і ветру братоў", якая паклала пачатак турысцкаму руху ў школе і раёне.

З нагоды сціплага юбілею сабраліся аматары вандровак розных гадоў. Першае слова на вечарыне ўзяў кіраўнік каманды Сяргей Зеляннееў. Ён успомніў першых энтузіястаў, цікавыя паходы і напружаныя спаборніцтвы, падзяліўся планамі на будучае. Потым былі прагляд відэафільму і слайдаў, гульні, конкурсы, салодкі стол і дыскатэка. Твары прысутных поўніліся радасцю і шчырасцю, калі гучалі гітара і знаёмыя ўсім турысцкія песні.

БЯРОЗА

### Канцэрты Яўгена Савельева

27—28 лютага ў Бярозе і Белаазёрску адбыліся канцэрты спевака-барда з Віцебску, лідэра гурта "New Cosmopolis" ("Новае касмічнае места"), акцёра тэатра імя Якуба Коласа Яўгена Савельева. Хоць і з пэўнымі цяжкасцямі, але арганізатару — Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны — удалося прыйсці да згоды з мясцовымі ўладамі аб правядзенні канцэртаў. На жаль, слухачоў было няшмат, ды, зрэшты, так заўсёды бывае на аўтарскіх канцэртах. Тыя, хто прыйшоў, наўрад ці пашкадуюць, што змаглі пазнаёміцца з самабытным талентам. Рускі па паходжанні, спадар Яўген Савельеў і яго гурт спяваюць у даволі нязвыклым стылі беларускага патрыятычна-хрысціянскага року. Былі ў рэпертуары спевака і іншыя песні — лірычныя, папулярныя.

### Пікет забаронены

Старшыня Бярозаўскай раённай рады Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" Сяржук Русецкі ў чарговы раз падаў у райвыканкам заяўку на правядзенне прымеркаванага да Дня Канстытуцыі (15 сакавіка) пікету супраць спроб аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву (што супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), супраць падзення ўзроўню жыцця, у падтрымку правядзення 16 мая згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 г. чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Паколькі згодна з указам прэзідэнта А. Лукашэнкі Дзень Канстытуцыі з'яўляецца працоўным днём, пікет меркавалася правесці ў нядзелю, 14 сакавіка. Аднак старшыня райвыканкама сп. І. Малейцін у чарговы раз адмовіў у правядзенні пікету "в связи с тем, что целью проведения пикета является насильственное изменение конституционного строя".

ІВАЦЭВІЧЫ

### Крадуць нават ліфчыкі

Маладая настаўніца з вёскі М[illegible], вярнуўшыся з заняткаў, звярнула ўвагу на тое, што ключ, якім яна адчыняе і зачыняе дзверы той хаты, якую наймае ў вясковага дзядулі, ляжыць неяк не так, як яна пакінула раніцай.

Зайшоўшы ў хату і праверыўшы рэчы, дзяўчына ўпэўнілася, што яе абакралі. Прапалі зімовая куртка, два касцюмы і нават некалькі камплектаў трусоў з ліфчыкамі.

Злодзеяў знайсці аказалася няцяжка. Справа ў тым, што суседскі хлопец, які абедаў ля акна, бачыў як у тры гадзіны дня невялікая група людзей "тусавалася" каля дзвярэй настаўніцы.

Таму выкліканай міліцыі вялікіх намаганняў прыкласці не прыйшлося ў раскрыцці злачынства. Высветлілася, што два мясцовыя хлопцы і жанчына па папярэдняй змове праніклі ў дом настаўніцы.

Арудавала ў асноўным жанчына. Гэтым і тлумачыцца тое, што ўкрадзенымі аказаліся галантарэйныя вырабы — трусы і ліфчыкі, красці якія мужчыне хутчэй за ўсё і ў галаву не прыйдзе.

### Забілі старога

Гэта адбылося нядаўна ў вёсцы Селец. Двое маладых людзей (адзін з іх унук старога чалавека) зайшлі ў хату дзеда і запатрабавалі грошай. Кончылася тым, што стары аказаўся мёртвым. Падазраваемыя ў забойстве затрыманы. Ідзе следства.

**Шаноўныя чытачы!**

Працягваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 1999 года. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Індэкс газеты 63834.

Кошт падпіскі: на адзін месяц — 32 тысячы рублёў, на квартал — 96 тысяч.

